Народны Мемарыял

# КУРАПАТЫ

---

## Памятаць, шанаваць
## і берагчы, каб трагедыя
## не паўтарылася






Курапаты – лясное ўрочышча на паўночна-ўсходнім ускрайку Мінска паміж вёскай Цна і "Экспабелам", побач з вуліцай Мірашнічэнкі. Яшчэ адна яго назва – Брод.

**Курапаты хаваюць у сваёй нетры страшную таямніцу. Там ляжаць сотні тысяч забітых – ні ў чым не вінаватых мірных людзей, нашых з вамі продкаў і суайчыннікаў.**

Праўда адкрылася ў 1988 годзе. Археолаг Зянон Пазьняк і інжынер Яўген Шмыгалёў сабралі факты, успаміны сведак і надрукавалі артыкул "Курапаты – дарога смерці", дзе даказалі, што ў 1930-я гады там масава расстрэльвалі людзей савецкія органы бяспекі.

Была створана ўрадавая камсія, узбуджана крымінальная справа. Даследавала курапацкія магілы група археолагаў Акадэміі навук. Яны выявілі 510 магільных ямаў і зрабілі эксгумацыю некаторых. У кожнай магіле знаходзіліся парэшткі 250—260 забітых. Выявілася, што раней магілы ўжо раскопвалі, відаць, хаваючы сляды злачынстваў.

**Імёны большасці людзей, якія ляжаць у Курапатах, невядомыя. Мы прыходзім да іх на Радаўніцу і на Дзяды. Кожны сумленны чалавек з пачуццём справядлівасці і павагі да продкаў ставіцца да Курапатаў як да святыні.**



Аналіз парэшткаў і рэчаў (гумовы абутак, грабяні, зубныя шчоткі, кашалькі, гільзы) паказаў, што людзі забітыя ў 1937-1941 гг. стрэлам у галаву (як правіла, у патыліцу) з савецкага рэвальвера "Наган". Усе цывільныя, як з Усходняй, так і з Заходняй Беларусі. Сярод забітых былі і жанчыны. Новыя раскопкі ў 1997—98 гг. пацвердзілі гэтыя факты.

У 1989 г. Савет міністраў прыняў пастанову аб пабудове ў Курапатах помніка. У 1993 г. урочышча Курапаты ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў як "Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 30-х – 40-х гг. ХХ ст.", як гісторыка-культурная каштоўнасць міжнароднага значэння.

Пастановай Міністэрства культуры ад 12.05.2004 года зацверджаныя зоны аховы Курапатаў, у якіх нельга будаваць забаўляльныя аб'екты.







На жаль, дзяржава так і не паставіла абяцаны помнік. Але людзі самі ўшанавалі памяць ахвяраў таталітарнага рэжыму, у тым ліку сваіх бацькоў і дзядоў, месца апошняга спачыну якіх невядомае. У Курапатах стаяць вялікі крыж са святым абразом Маці Божай Курапацкай (аўтар абраза мастак Аляксей Марачкін), сотні крыжоў, пастаўленых людзьмі з усёй Беларусі.

Ахвярамі НКВД былі людзі ўсіх нацыянальнасцяў. Памятны камень ва ўрочышчы паставілі беларускія яўрэі, ёсць крыж памяці палякаў. Стаіць помнік ад амерыканскага народу – мемарыяльная лава, якую перадаў прэзідэнт Б. Клінтан.

У 2013 годзе на сродкі архітэктара, дачкі расстралянага ў 30-я гады пісьменніка Маі Кляшторнай па перыметры Курапатаў усталявана 11 ахоўных камянёў. Іх немагчыма не заўважыць.

# Шаноўныя жыхары Зялёнага Лугу і Цны!

Мы з вамі асабліва адказныя за лёс і стан Курапатаў, бо жывем побач з гэтай святыняй беларускага народу.

Мы мусім ведаць самі і тлумачыць нашым дзецям, іншым мінчанам і гасцям сталіцы, што такое Курапаты.

**Давайце разам дбаць пра памяць бязвінна палеглых ахвяраў:**

- **Наведваць Курапаты прынамсі ў дні памяці продкаў;**
- **Даглядаць урочышча, далучацца да талокаў і суботнікаў, якія там ладзяцца – касіць траву, прыбіраць, садзіць кветкі, правіць крыжы;**
- **Не дазваляць выгульваць сабак ва ўрочышчы Курапаты;**
- **Тлумачыць удзельнікам пікнікоў, што забавы на касцях заканчваюцца кепска;**
- **Спыняць любыя спробы знявагі могілак – хуліганаў і вандалаў здаваць у міліцыю**

*Эксперты, якія займаюцца праблемай Курапатаў, гатовыя адказаць на Вашыя пытанні.*

*Кантактны адрас:*
***kurapaty2014@gmail.com***

*Інфармацыю па гэтай і іншых праблемах найноўшай гісторыі Беларусі можна атрымаць на сайце* ***vytoki.net***

Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў.